Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

28 лістапада - 4 снежня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№48 (136)

Як зэканоміць капейку

7-я старонка

## Конкурс "Фотамадэль рэгіёна"



Наташа: *Маладзечна, 20 год, рост 166, вага 56; любіць глядзець мульцікі пра Русалачку, па вечарах сустракаецца з сябрамі і піша музыку, не любіць у гэты час заставацца адна.*

*Фота Сяргея КАПУЦКАГА.*

Конкурс "Фотамадэль рэгіёна" працягваецца. Запрашаем. Пераможцу чакае прыз ад "РГ". Сімпатыі чытачоў па-ранейшым на баку **Каці** (№ 42) і **Светы** (№ 46).

# Камітэт прадпрымальнікаў створаны

## Ці здолее ён абараніць інтарэсы прыватнага бізнесу?

*МАЛАДЗЕЧНА. Увесь тыдзень не сціхаюць страсці на рэчавым рынку ў Маладзечне. Прадпрымальнікі імкнуцца абараніць сябе ад уведзеных уладай нібы заднім чыслом правілаў падаткаабкладання.*

Яшчэ ў нядзелю на рэчавым рынку абураныя прадпрымальнікі пачалі збірацца, каб абараніць свае грошы. Толькі з трэцяй спробы ў сераду, 26 лістапада, быў заснаваны камітэт прадпрымальнікаў гарадскога рынку з пяці чалавек. Яму даручана адстойваць прадпрымальніцкія інтарэсы ва ўсіх уладах. Але ў чым палягае праблема?

Па Указу прэзідэнта №70 ад 20 студзеня 1997 года, тыя прадпрымальнікі, хто займаецца гандлем у рознічу, на рэчавых кірмашах і рынках, павінны былі плаціць падатак па фіксаванай стаўцы. Але згодна з законам "Аб падаходным падатку з грамадзян", даходы ад прадпрымальніцкай дзейнасці абкладаліся падаткамі па шкале табліцы № 2 у залежнасці ад памеру мінімальнай заработнай платы. Мала хто ведаў, што фіксаваны падатак не пазбаўляе прадпрымальнікаў ад пераліку падаткаў у канцы года пры запаўненні дэкларацый аб валавым даходзе. Права прымянць парадак падаткаабкладання па сукупным даходзе заставалася нібы бомба запаволенага дзеяння, якую можна было б выкарыстаць у самы неабходны момант. І ён, нарэшце, настаў. Роўна тыдзень таму на сустрэчы прадпрымальнікаў з прадстаўнікамі абласной падатковай інспекцыі і быў афіцыйна аб'яўлены новы парадак абкладання даходаў.

Простыя падлік паказвае, што продаж толькі двух сінтыпонавых куртак у дзень па паўтара мільёна за кожную пры гандлі толькі ў выхадныя дні дасць даход амаль у 25 мільёнаў рублёў у месяц і 300 мільёнаў у год. З яго і прыйдзецца плаціць падатак, бо няма дакументаў, якія пацвярджаюць затраты на пакупку тавараў у Маскве ці Польшчы. Ад абкладаемага абароту адлічыцца толькі сума, фактычна ўжо заплачаная авансам у выглядзе фіксаваных плацяжоў. І ў выніку нашаму гандляру прыйдзецца заплаціць у бюджэт па выніках года яшчэ амаль 79 мільёнаў рублёў.

Але прыведзены прыклад можна лічыць даволі сціплым бізнесам, бо, як добра вядома, прадпрымальнікі гандлююць і значна даражэйшымі рэчамі, таму і памер дадатковага падатку будзе большы.

Справа з абаронай сваіх правоў для прадпрымальнікаў складаная, бо, як на сходзе паведаміла адвакат **Алена Халупка**, юрыдычна і эканамічна прадпрымальнікі безабаронныя перад законам. Многія лічаць абвастрэнне адносінаў улады з прадпрымальнікамі справай палітычнай. Адно толькі нельга забываць, што прадпрымальнікі самі ствараюць сабе рабочыя месцы і забяспечваюць свае сем'і сродкамі да жыцця. Да таго ж, далічаны да выплаты падатак прывядзе да рэзкага павелічэння цэнаў на рэчы, што прадаюцца, бо прадпрымальнік захоча раздзяліць яго з пакупнікамі.

Як стала вядома, падобныя хваляванні прадпрымальнікаў прайшлі і ў Вілейцы. На чарзе - Мінск і Гродна. Развіццё канфлікта і яго вынікі - ў нашых наступных нумарах.

*Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.*

## Патрабуюцца на працу

**ВІЛЕЙКА.** Прадавец (10), аўтаэлектрык (1), механізатар (2), галоўны энергетык (1), інжынер-электрык (1), газаэлектразваршчык (1), экскаватаршчык (1), сталяр-станочнік (1), юрысконсульт (1), слесар мехзборачных работ (1), галоўны заатэхнік (1), ветфельчар (1), даярка (3).

**Т. для даведак 54113.**

**СМАРГОНЬ.** Усе будаўнічыя спецыяльнасці, тэхнолаг (1, у цэх па перапрацоўцы мяса), майстар па маразільным абсталяванні (1).

**Т. для даведак 32130.**

**МЯДЗЕЛ.** Даярка (4), механізатар (2), трактарыст (4), вадзіцель (2), буфетчыца (2).

**Т. для даведак 55835.**

**АСТРАВЕЦ.** Вадзіцель катэгорыі Д з беспярэпынным стажам не менш за 5 гадоў (1), газаэлектразваршчык-сантэхнік (1), інжынер-будаўнік (1).

**Т. для даведак 21708.**

## Мастацтва

### Выстаўка К.Харашэвіча ў Мінску

*МАЛАДЗЕЧНА-МІНСК. У сталічным Палацы мастацтваў заўчора адкрылася персанальная выстаўка члена Саюза мастакоў Беларусі сябра мастацкай суполкі "Пагоня" маладзечанца Кастуся Харашэвіча.*

Творы Канстанціна Іванавіча вядомыя і за межамі нашай краіны. Яны экспануюцца ў музеях і выставачных залах Літвы, Германіі, Вялікабрытаніі, Польшчы. Наш зямляк, які сёлета адзначыў сваё 70-годдзе, пастаянна знаходзіцца ў творчым пошуку, хаця на гэтым шляху стаіць шмат перашкод. Адна з галоўных - дарагоўля. І тут гаворка не толькі пра фарбы. Высокая арэндная плата за майстэрню прымушае мастака шукаць менш прыстасаванае, але больш таннае памяшканне. Хаця майстэрня, у якой ён працуе сёння, яшчэ за даперабудовачнымі часамі было прадастаўлена Харашэвічу як аднаму з вядучых майстроў Беларусі Саюзам мастакоў.

Сённяшнюю выстаўку дапамагло арганізаваць і прафінансавала Міністэрства культуры.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Навіны

### І ад золата адмаўляюцца

*АСТРАВЕЦ. Дзіўныя людзі пачалі ездзіць апошнім часам у цягніках праз станцыю Гудагай: некаторыя пакідаюць у вагонах нават золата.*

А днямі ў цягніку Вільнюс-Масква пагранічнікі знайшлі ў канструкцыйных асаблівасцях вагона 210 скурак норкі. Гаспадара ж на іх не знайшлося. Кантрабанду перадалі на мытню, а адтуль, мяркуецца, яна трапіць на паліцы крамаў.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

А двое проста не прыйшлі на прызыўную камісію. **Сяргей Ліпоўскі** з Лукаўца меў адтэрміноўку па сямейных абставінах. І вырашыў яе працягнуць. Двойчы ўручалі павесткі **Аляксандру Чабану** з Даўгінава. Ён таксама не з'яўляецца ў ваенны камісарыят. Здаецца, хлопцам прыйдзецца адказваць па законе.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

### Белы білет

*ВІЛЕЙКА. Сёлета, як ніколі рана, заканчваецца восеньскі прызыў на тэрміновую ваенную службу. З тых, хто стаіць на ўліку, боты абуюць толькі 50%. Астатнія маюць адтэрміноўку або атрымалі белы білет.*

### Мінус псіхалогія жабрака

*МАЛАДЗЕЧНА. Праграма пазбаўлення ад жабрацкай псіхалогіі, праграма дабрабыту і поспеху будзе раскрыта на лекцыі вынаходніка, авіяцыйнага канструктара з Феадосіі Валерыя Макарцава.*

Бясплатная лекцыя пачнецца 30 лістапада а 12-й гадзіне ў актавай зале палітэхнікума.

*Галіна ЕЎДАКІМЧЫКАВА.*



### Размеркаванне ў Валожын

*ВАЛОЖЫН. Раённы аддзел адукацыі пераабсталяваў драўляны будынак вячэрняй школы пад інтэрнат для маладых педагогаў.*

Сёння тут жывуць тры спецыялісты. Наогул жа, падрыхтавана 9 пакояў. 25 мільёнаў выдзеліў аддзел на рамонт памяшкання і каля 80 - на ўстаноўку электраплітаў і сантэхнікі. Ацяпляецца інтэрнат ад гарадской кацельні.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Адным абзацам

● Жыхары мікрараёна вілейскага завода "Зеніт" гатовыя добраахвотна папрацаваць на добраўпарадкаванні прыпынку прыгарадных цягнікоў. Маладзечанцы (6-ы мікрараён) такога жадання пакуль не выказваюць. Але і там, і там справа стаіць на месцы з-за адсутнасці нават мінімальных сродкаў.

● Валожынскія маладыя цяпер бяруць шлюб у абноўленай рытуальнай зале. Дапамаглі сродкі, выручаныя ад аказання паслуг наведвальнікам гэтага аддзела.

● Прэзідэнт рэгіянальнага цэнтра прадпрымальнікаў **Юрый Ціханчук** скептычна ставіцца да другой спробы стварэння ў Смаргоні цэнтра фінансавай падтрымкі і прадпрымальніцтва. Раней такая структура была, але спыніла сваё існаванне.

● Начальнікам пашпартнавізавай службы Мядзельскага РАУС стаў **Уладзімір Паршута**. А загадчыкам аддзела культуры райвыканкома прызначаны **Анатоль Чарапові**ч (апошнім часам працаваў дырэктарам СШ №1 райцэнтра).

● Маладзечна наведалі першы намеснік прэм'ер-міністра **Пётр Пракаповіч** і міністр прамысловасці **Анатоль Харлап**. На ўсіх узроўнях кіравання чакаецца ўзмацненне патрабавальнасці.

● На 46-м годзе жыцця раптоўна памер старшыня мядзельскага калгаса "Шлях Ільіча" **Міхаіл Світа**.

● На мінулым тыдні ў Беларусі больш за 20 пракурораў змянілі раёны, дзе працавалі. Пракурор Астравеччыны **Мікалай Маліноўскі** накіраваны ў суседнюю Смаргонь. Яго месца заняў былы намеснік **Валерый Працкайла**, пасада якога пакуль што застаецца свабоднай.

З Білам Гейтсам у адной кампаніі

# "Internet"ам па рэгіёну

***МАЛАДЗЕЧНА. Дзмітрый Тубеліс гэтай восенню стаў адзіным у рэгіёне дыпламаваным спецыялістам фірмы "Microsoft".***

Жыццё вызначыла так, што яму не наканавана было стаць ваенным: пасля заканчэння Харкаўскага вышэйшага ваеннага вучылішча радыёэлектронікі трапіў пад скарачэнне. Дакладна невядома, ці згубіла што войска, але маладзечанцы атрымалі добрага спецыяліста па камп'ютэрах.

- Нядаўна ў Маскве трымаў вельмі складаныя экзамены (6 камп'ютэрных тэстаў па 50-80 пытанняў кожны), адказы на якія дасылаліся ў Ірландыю, дзе ў Дубліне месціцца галоўны офіс фірмы "Microsoft". Задавальненне было дарагое - праезд, спецыяльная літаратура і іншае, але хоць англійскую мову як след вывучыў. У выніку ж з Дубліна прыйшло паведамленне, што мне прысвоена кваліфікацыя "сістэмны інжынер "Microsoft" з выдачай сертыфіката міжнароднага ўзору.

**- І што гэта вызначае!**

- Мая спецыяльнасць - сеткі "Microsoft" і "Internet". Гэта мае на ўвазе стварэнне камп'ютэрных сетак "з нуля": планаванне, распрацоўка, закупка абсталявання, устаноўка праграмнага забеспячэння, абслугоўванне. Прычым на прадпрыемствах любога маштабу. Мая спецыялізацыя - "Internet", я ведаю, як гэта робіцца і што для гэтага патрэбнае. І пры ўладкаванні на работу мне не патрэбна нічога тлумачыць пра сваю кваліфікацыю.



Microsoft Certified Professional Systems Engineer

**- Шмат вас "такіх"!**

- У Мінску з дзесятак наўрад ці набярэцца. Наогул, па СНД штомесяц 1-2 чалавекі здаюць такія экзамены - складана, літаратура ўся на англійскай ды яшчэ неабходныя трывалыя агульныя звесткі па сувязі.

**- А ў Еўропе!**

- На кантыненце каля 2000 спецыялістаў, сістэмных інжынераў - каля 400.

**- Пра наш рэгіён не пытаюся. А што дае новая "адукацыя" чыста практычна!**

- Я магу рашаць задачы высокай складанасці. Хаця за гэта і аплата мусіць быць адпаведная. Але прапановы ідуць, у сталіцы ёсць фірмы, якія разумеюць гэта. Мой сертыфікат, дарэчы, адпавядае 7-8 гадам практычнай работы пасля ўніверсітэта ЗША (аплата ад $20 у гадзіну). І такія спецыялісты, як сведчаць аб'явы ў "Internet", за мяжой патрабуюцца.

**- Паедзеш!**

- Не. Шыла на мыла: свае праблемы ўсюды і пераездам яны не вырашаюцца. Хіба толькі падзарабіць?

**- "РГ" мае электронны адрас, выхад у "Internet", але якасцю сувязі мы не задаволеныя.**

- Маладзечна (прадпрыемствы і прыватныя асобы) мае 8 IP-адрасоў, па рэспубліцы іх каля 3000. Няшмат, але з нашым абсталяваннем і фінансавымі магчымасцямі цяжка прагназаваць нейкае паляпшэнне сітуацыі. На суседняй Украіне, да прыкладу, усё працуе, бо там зацікаўленныя ў развіцці сродкаў сувязі і камунікацыі.

**- І калі ў каго з рэгіёна ўзнікнуць пытанні, то можна звярнуцца не толькі да Сакалова, Піскуна, Быкоўскага, Сівіцкага ці Міцкевіча, але і да Тубеліса!**

- Думаю, што для ўзроўню рэгіёна ў Маладзечне дастаткова спецыялістаў і без мяне.

**- Твайго дзеда і бацьку ў рэгіёне ведаюць як работнікаў ідэалагічнага фронту...**

- ... А я пайшоў у "тэхнары", аб чым не шкадую.

**- Мы таксама. Поспехаў!**

*Сямён ДАЎГАЛЁЎ.*

Падаткі

# Маёр Дудзіч лічыць

***МАЛАДЗЕЧНА. Парушальнікі падатковага заканадаўства завінаваціліся бюджэту 28 мільярдаў. Пералічылі крыху больш за 6. Гэта сітуацыя на 20 лістапада, з кожным днём запазычанасць павялічваецца. Намеснік начальніка аддзела падатковых расследаванняў Міхаіл Дудзіч гаворыць, што найбольш распаўсюджана ўтойванне даходаў, заніжэнне прыбыткаў.***

Галоўны від дзейнасці **ТАА "Балід"** - засольванне рыбы і яе рэалізацыя. Тут працавалі без ліцэнзіі, утойвалася наяўная выручка за продаж прадукцыі. Вялася двайная бухгалтэрыя. Цяпер узбуджана крымінальная справа, а 2,5 мільярда ў якасці падаткаў, штрафаў гаспадары "Баліда" павінны ўнесці ў бюджэт. Дырэктара часова затрымлівалі. Следства заканчваецца. Маёмасць апісаная.

Правяраюць фірму **"Металапракат"**, якая займалася аптовымі пастаўкамі металапрадукцыі. Свядома завышаліся выдаткі. Ужо сёння сума фінансавых санкцый перавышае 9 мільярдаў рублёў.

Ад пачатку года падатковай міліцыяй праверана 380 суб'ектаў гаспадарання. Складзены 351 адміністрацыйны пратакол (таксама на грамадзян, якія не маюць статусу прадпрымальніка). Выяўлена 45 злачынстваў, узбуджана 30 крымінальных спраў.

Аддзел папярэджвае, выяўляе парушэнні ў прадпрымальніцтве, у ажыццяўленні дзейнасці без дзяржрэгістрацыі, ліцэнзій. Сочыць, каб не займаліся забароненымі відамі дзейнасці. Напрыклад, **Таццяна Касцянкова** прадавала муку без ліцэнзіі, **Святлана Лушчык** з парушэннямі вяла касавыя аперацыі, заніжала прыбытак (ёй прыйдзецца за гэта заплаціць 172,9 мільёна рублёў). За ўтойванне прыбытку **Аляксандр Карповіч** заплаціў 10 мільёнаў, **Генадзь Сыракваш** - каля 5.

Маёр Дудзіч лічыць, што многія прадпрымальнікі і фізічныя асобы недастаткова юрыдычна падкаваныя. Каб гэта выправіць, у кожнай падатковай інспекцыі кожны тыдзень працуюць кансультацыі. Але ў нас яшчэ ніяк не адвыкнуць хлусіць.

*Васіль САВІЦКІ.*

Крымінал, здарэнні, хроніка

# Тэрмін адпаведна з хабарам

***АСТРАВЕЦ. "У сям'і не без вырадка" - менавіта так гаворыць народная прыказка. Будзе яна дарэчы і ў адносінах да супрацоўнікаў Астравецкай мытні. Нягледзячы на тое, што большасць з іх служыць добрасумленна, ёсць і зусім супрацьлеглыя мытнікі.***

Нядаўна над адным з іх, 31-гадовым старшым інспектарам **Уладзімірам Барысевічам** адбыўся суд. А здзейсніў ён наступнае: узяў у грамадзяніна Літвы хабар у памеры 500 тысяч беларускіх рублёў за тое, што дазволіў апошняму правезці на тэрыторыю РБ 650 тысяч беларускіх рублёў. Акрамя гэтай "заслугі", ён незаконна захоўваў у сваім доме 53 патроны ад дробнакалібернай вінтоўкі, 10 пісталетных патронаў, што з'яўляюцца боепрыпасамі, газавы пісталет і складаны кісцень, які, дарэчы, 15 красавіка забраў падчас нясення службы ў аднаго з літоўскіх паліцэйскіх.

Нягледзячы на невялікі памер хабару, іншыя акалічнасці, суд прызначыў меру пакарання Уладзіміру Барысевічу ў 2 гады і 6 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Знайсці сябе

# Сталічныя ашмянцы

***АШМЯНЫ. На базе школы-інтэрната для глухіх дзяцей прайшоў рэспубліканскі семінар. Прыехалі былыя выпускнікі.***

Неаднаразовы чэмпіён Еўропы, Свету, Параалімпійскіх гульняў лёгкаатлет **Аляксандр Хацяновіч** 13 гадоў правёў у дзіцячай спецыялізаванай установе. Цяпер жыве ў Мінску, мае сям'ю. **Віктар Залатоўскі** скончыў тэхнікум у Санкт-Пецярбурзе, радыётэхнічны інстытут у Мінску. Таксама жыве і працуе ў сталіцы.

Рабочыя аўтазавода **Аня Сцепанькова**, **Геня Худзіцкая** падкрэслілі, што азы кулінарыі, наогул дамаводства спасцігалі менавіта ў школе-інтэрнаце. Ёсць у ім і карціны былога выпускніка, а цяпер мастака **Аляксандра Малчанава**.

*Святлана ВЯЛЬСКАЯ.*

Мастацтва жыць

# На 40 тысяч смаргонцаў 2,5 тысячы - інваліды



Дуэт "Пераадоленне".

***СМАРГОНЬ. Мясцовае таварыства паспяхова прадставіла вобласць на IV рэспубліканскім фестывалі творчасці інвалідаў "Мастацтва жыць - тварыць мастацтва". Дуэт "Пераадоленне" (Аляксандр Іваноў і Цеймур Пагасян) стаў лаўрэатам адразу ў 2 намінацыях - "Салісты, вакалісты" і "Кампазітары, аранжыроўшчыкі".***

У Аляксандра і Цеймура вольнага часу няма. Першы піша карціны (каля 20 новых, не "апранутых" у багет работ стаяць дома), працуе над кнігай. Другі выкладае ў музычнай школе, кіруе камерным аркестрам. Разам шмат рэпеціруюць.

Ужо ў якасці лаўрэатаў хлопцы ўдзельнічалі ў галаканцэрце, што прайшоў у сталічным тэатры музкамедыі. Але "паламалі" праграму: замест адной, па плане, песні выступілі і на "біс" са сваёй "Скажы, калі ласка".

Днямі ў будынку музея старшыня выканкома **Мікалай Кавалёў** адкрыў выстаўку творчасці інвалідаў. Свае работы прадставілі **Сяргей Закусіла** (разьба па дрэве), **Павел Зражэўскі** (вырабы з лазы), **Аляксандр Іваноў**, **Віктар Сарокін** (работа з прыродным матэрыялам).

Мастачка **Лілія Трохалева** хутка год, як памерла. Але яе карціны таксама прадстаўленыя.

Усе сродкі ад выстаўкі пералічаць на дабрачынны рахунак. Гэта значыць, яны пойдуць не толькі на дапамогу інвалідам, але і ўсім малазабяспечаным.

- Мы небагатыя, але маем уласны гонар, - адзначае старшыня таварыства інвалідаў **Ніна Кардзіс**, - гатовыя дапамагаць усім, хто мае патрэбу. Бо добра ведаем, што такое бяссонныя ночы, смутак.

Таварыства інвалідаў удзячнае смаргонцам, якія ўзялі ўдзел у месячніку дабрачыннасці і прынеслі сваё адзенне, абутак. Ліцэйна-механічнаму, камбікормаваму, сілікатнаму заводам, фірме "Ліст", магазіну "Журавінка", якія заўсёды дапамагаюць інвалідам жыць і ствараць.



10-гадовая паэтка **Аня Гадэнава** вучыцца ў СШ №5. Свае вершы на англійскай і рускай мовах спрабуе перакладаць на музыку.

*Васіль САВІЦКІ.*



## З НАРАДЖЭННЕМ!

У рэгіёне прыбавілася новых грамадзянаў:

**Ашмяны. 25. 10** Кацярына Курапцева. **09. 11** Дзяніс Аўцюкевіч. **12. 11** Алена Савіцкая. (3)

**Смаргонь. 05. 11** Алена Казяк і Анастасія Цікота. **06. 11** Вераніка Арлова. **07. 11** Анастасія Карней. (4)

**Валожын. 24. 10** Юлія Болах. **30. 10** Аляксандр Шакун. **07. 11** Аляксандр Бадрызлаў. **09. 11** Андрэй Балабан. (4)

**Мядзел. 13. 11** Крысціна Рабчун. (1)

***Крысціна - чацвертае дзіця ў сям'і. Так трымаць, паважаныя Рабчуны! А іншым слабо?***

**Шаноўныя бацькі!**
**Калі вы хочаце нараджэнне вашага дзіцяці адзначыць здымкам у "Рэгіянальнай газеце" - тэлефануйце 53841, 69667, дасылайце здымкі - мы змесцім іх БЯСПЛАТНА.**



## ВІНШУЕМ СА ШЛЮБАМ!

За **17.11-23.11** шлюб узялі наступныя пары:

**Ашмяны.** Уладзімір Мажэйка і Вольга Окунева, Андрэй Завадскі і Таццяна Стасюкевіч, Алег Жукоўскі і Алена Мілаш. (3)

**Смаргонь.** Сяргей Чарных і Святлана Пятруніна, Алег Лукоўскі і Аксана Шуляк, Сяргей Бубноў і Наталля Краго. (8)

**Валожын.** Валерый Урублеўскі і Вольга Павеццева. (1)

**Мядзел.** Андрэй Казлоў і Святлана Зіновіч, Юрый Юдзіцкі і Галіна Герасімава, Канстанцін Пацяюн і Вольга Паршута, Барыс Абрамчык і Наталля Чарняўская. (5)

**Культ-ура!**

# Хроніка

***МАЛАДЗЕЧНА.*** Раённы метадычны цэнтр (дырэктар **Тамара Дудзіч**) кіраваў творчай часткай "Восеньскага кірмаша-97", які прайшоў у Палачанах.

У Аляхновічах скончыўся занальны агляд-конкурс самадзейных тэатральных калектываў.

У памяшканні клуба мэблевай фабрыкі адбыўся ўрачысты вечар з нагоды 35-годдзя лаўрэата міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў народнай творчасці народнага тэатра Маладзечанскага ГДК.

Народны ансамбль песні і танца "Спадчына" атрымаў у сваё карыстанне вытворчыя плошчы па вул. Хмяльніцкага, 22 (праектныя майстэрні).

***АСТРАВЕЦ.*** Днямі завяршыўся конкурс нацыянальнай гульні і цацкі, арганізатарам якога выступіў раённы аддзел адукацыі сумесна з дзіцяча-юнацкім цэнтрам. Кампетэнтнае журы падводзіць вынікі, а прызы чакаюць лепшых.

# Анонс

***МАЛАДЗЕЧНА.*** Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка" рыхтуе спектакль "Брыдкае качаня" па казцы Андэрсана. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам запрошаны **Аляксей Ліляўскі** з Мінска. Спектакль будзе прадстаўляць тэатр на IV Міжнародным фестывалі тэатраў лялек, які пройдзе ў верасні будучага года ў сталіцы.

Акцёр тэатра **Аляксандр Барбаш** будзе ставіць "Спячую прыгажуню" Шарля Перо. Маленькі глядач убачыць спектакль у маі.

***ВІЛЕЙКА.*** У сярэдзіне снежня на базе культустаноў, якія адраджаюць народныя рамёствы, адбудзецца абласны семінар "Традыцыйная культура і сучаснасць".

***Тарэза ВАСІЛЬЕВА, Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

**Ураджай-97**

# Час лімоны збіраць



***МАЛАДЗЕЧНА. Дажынкі святкуе прэзідэнт турклуба "Пілігрым" Сяргей Бялкоў - у яго кватэры ўпершыню за 6 гадоў паспеў ураджай лімонаў.***

Лімоннае дрэва расцвіло ў канцы студзеня і праз дзевяць месяцаў (часта сустракаемы перыяд у прыродзе) можна было здымаць шэсць прыгажуноў-лімонаў. Першыя два плады вагой па 150 з лішкам грамаў на густ і смак не адрозніваліся ад прапануемых да продажу па 57 тысяч рублёў на рынку і дасталіся сынам прадаўжальніка мічурынскіх традыцый.

Яшчэ ў 1991 годзе Бялкоў атрымаў з лімонарыя ў горадзе Паўлава Ніжагародскай вобласці некалькі 10-сантыметровых чаранкоў, але прыжыўся ўсяго адзін. І толькі пасля клапатлівага дагляду, частага паліву і падкормкі з'явіўся вынік.

***Міхаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ.***

**Шаноўныя чытачы! Мы ведаем, што толькі ў Маладзечне ёсць шмат уладальнікаў пакаёвых лімонных дрэваў, дэкаратыўных пальмаў, іншых экзатычных раслін. Дасылайце ў рэдакцыю здымкі і лісты пра ваш цуд.**

**Сектар спорту**

# "У трэнерскіх справах я не вельмі"

***МАЛАДЗЕЧНА. У панядзелак у рэдакцыю завіталі два хлопцы. Адзін з іх прадставіўся: "Прывітанне, я - Шаман!" Той самы наш зямляк, які перамог у прэсболаўскім футбольным конкурсе "Сам сабе трэнер" і якога мы чакалі, каб выведаць пару-тройку сакрэтаў.***



Кампанія маладзечанскіх сам сабе трэнераў (злева направа): Дзіма Міхедаў, Мікалай Драздовіч, Саша Кавалеўскі, Дзіма Хаціпоўскі.

САКРЭТ ПЕРШЫ.

**Мікалай Драздовіч** аказаўся дзесяцікласнікам СШ №2. У падобным конкурсе ўдзельнічаў упершыню і адразу пацэліў у "дзесяткy".

*- Адкуль з'явілася такая назва - ФК "Шаман"?*

- Назву даў камандзе проста так - пасмяяцца.

*- Як ты падбіраў такі "ўдарны" склад гульцоў?*

- Спатрэбілася на гэта два тыдні. Адна каманда нечым не спадабалася - другую пачынаў складаць, другая чымсьці не пасавала - з'яўлялася трэцяя. Гартаў газеты, глядзеў статыстыку. Вырашыў па-магчымасці больш "наяўных" укласці ў галоўных 11 гульцоў.

*- Нехта пастаянна стаяў у аснове?*

- Толькі **Хлебасолаў**.

*- Што атрымалася ў выніку?*

- Дзве каманды - ФК "Шаман" (11 асноўных футбалістаў, у запасе варатар, паўабаронца і абаронца) і "Змена-97" (па льготным купоне). Першая ад самага пачатку стала набіраць ачкі, другая згубілася ўнізе, і я перастаў звяртаць на яе ўвагу. Тым болей, што ў "Шамана" справы ішлі ўсё лепей і лепей. Свае каманды склалі і мае сябры. Але толькі пасля першага тура каманда **Дзімы Міхедава** апярэджвала маю на паўачка. Потым усе засталіся ззаду.

**Выснова** (*выведзена яшчэ "Прэсболам"*): **не разменьвайся па дробязях - усе наяўныя ўкладвай у аснову.**

САКРЭТ ДРУГІ.

*- Па-твойму, хто больш заслужыў званне чэмпіёна'97 - "Дынама" (Мінск) ці бабруйчане?*

- Няма розніцы. Абедзве каманды моцныя.

*- Назіраеш матчы толькі па ТБ?*

- Бываю амаль на кожнай гульні ФК "Маладзечна" на стадыёне. Але не заўсёды цікава. Аднойчы давялося быць на гульні "Дынама" (Мінск) - "Спартак" (Масква) у Мінску. Вось гэта быў футбол!

*- Што параіш трэнерам футбольных клубаў рэгіёна, зборнай краіны?*

- У трэнерскіх справах я не вельмі... (!!!)

*- Футболам захапляешся толькі на паперы?*

- Наша каманда пад назвай "Чайка" брала ўдзел у гарадскім чэмпіянаце па міні-футболе ад першай да апошняй гульні. Не вельмі ўдала. Пазмагаемся яшчэ ў наступным годзе, хаця яшчэ да таго дажыць трэба.

**Выснова** (*тэорыя без практыкі - нішто*): **трэба не толькі чытаць пра футбол і не толькі бываць на стадыёне, але і гуляць самому.**

САКРЭТ АПОШНІ.

*- Наступны конкурс будзе прысвечаны чэмпіянату Італіі. Твой прагноз для чытачоў "РГ" - на каго з італьянцаў арыентавацца?*

- Трэба падумаць, пагартаць падшыўкі газет. Адразу так не адкажаш. Там пабачым, сярод заходнееўрапейскіх у мяне ёсць любімыя каманды...

*Але якая ў чэмпіянаце Італіі - засталося сакрэтам.* ***Жадаем удачы, Мікалай!***

***Сяргей ГАЙКОВІЧ, Алег ГУЛЕЦКІ, фота Васіля САВІЦКАГА.***

**Крымінал, здарэнні, хроніка**

# Як заяц з цясцём "на справу хадзілі"

***АСТРАВЕЦ. Надыход зімы мясцовыя міліцыянеры вызначаюць па сваіх крытэрыях.***

Аднойчы заяц з цясцём, не прыдбаўшы летам батарэі ацяплення, вырашылі ліквідаваць недахоп. Ноччу яны залезлі ў адзін з будуемых дамоў па вул. Лугавой і выкралі адтуль сем батарэй. Груз быў не з лёгкіх, таму "працаваць" (пераносіць у свой дом) давялося ўсю ноч. Частку крадзенага затым прадалі.

Тым не менш замест упаснай хаты як бы ім не давялося грэцца ў больш няўтульных месцах.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

**Зірні на неба**

# За ўзыходам

*заканчэнне, пачатак у №44*

***Зрабіў здымкі ўзыходу, і падумаў: "Яно ж ніколі не заходзіць, а ўзыходзіць у іншым месцы. І ўсё наша жыццё ў кругазвароце сонца".***

Блукаў яшчэ каля гадзіны, назіраў, як ранак набывае іншыя фарбы і пачынае жыццё. Здавалася, у паветры ліецца і ліецца незвычайна дзівосная музыка, музыка цудоўнага жыцця.

***Аляксей ФЯЦІСАЎ, фота аўтара.***



# Гаспадары вельмі не задаволеныя. Сабой

***МАЛАДЗЕЧНА. У аўторак тут завяршыўся чэмпіянат Мінскай вобласці па шахматах.***

15 каманд (летась у Салігорску было ўсяго 6) "змагаліся" амаль тыдзень. Прадстаўнікі рэгіёна занялі 2-е месца (Маладзечна - **Віталь Качаткоў, Сяргей Зыскін, Міхаіл Фельдман і Жанна Вялічка**), 6-е (Маладзечанскі раён) і апошняе (Валожынскі раён).

Лёс першага месца вызначаўся ў апошнім туры, калі гаспадарам дастаткова было ў сустрэчы з салігорцамі узяць два ачкі з чатырох. На 1-й дошцы В. Качаткоў усяго праз гадзіну прымусіў капітуляваць сёлетняга чэмпіёна Маладзечна (пераехаў у Салігорск) **Аляксандра Цярэшчанку**. С. Зыскін меў лішнюю фігуру (маладзечанцы хадзілі перамож-цамі), але "зяўнуў" ферзя ў адзін ход. Не падтрымалі каманду і астатнія маладзечанцы, у выніку чаго чэмпіёнамі сталі салігорцы.

***Яўген ЧАЕЎСКІ, галоўны суддзя.***

**P.S.** Сёння заканчваецца каманднае першынство Маладзечна па шахматах сярод школ.

А ў суботу і нядзелю ў гарадскім шахматным клубе "Папараць" пройдзе 1 тур каманднага першынства краіны па брыджы (вышэйшая ліга).

**Шахматыстам рэгіёна нагадваем, што ў снежні пройдзе турнір на прызы нашай газеты. Чакаем прапановы па ўдзелу - ад любых каманд (3 чалавекі) па тэл. 53841, 54602.**

# Афіцыйная хроніка

***МАЛАДЗЕЧНА. 20-21 лістапада тут прайшоў семінар загадчыкаў спорткамітэтаў сталічнай вобласці.***

Перад гасцямі выступіў кіраўнік гарадской вертыкалі, а потым яны пабывалі на футбольным і гарадошным стадыёнах, у басейне, некалькіх спартзалах.

А тыдзень таму міністэрства спорту і турызму правяло калегію, на якой разглядалася работа спартыўных чыноўнікаў Гродзеншчыны. Вырашылі, што можна працаваць і лепш, як, да прыкладу, у некаторых раёнах, сярод якіх былі названы і Смаргонскі.

***Сяргей ГАЙКОВІЧ.***

